# 19-20 СЬНЕЖНЯ Ў МЕНСКУ СКЛІКАНЫ ПЕРШЫ СХОД БЕЛАРУСАЎ БЛІЗКАГА ЗАМЕЖЖА

*Жыве Беларусь!*



ПАГОНЯ

*Грамадзка-палітычная газэта* *Заснавана ў 1920 г.*

*№ 14* *18—31 сьнежня 1992 года* *Кошт 1 рубель*

## Са Звароту да землякоў аргкамітэта Рады Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына»

**Сёньня каля трох мільёнаў беларусаў пражываюць за межамі Рэспублікі Беларусь. Шмат хто зь іх набыў другую радзіму ў блізкім і далёкім замежжы. Тым ня менш кожны беларус, дзе б ён не знаходзіўся, у якіх бы спрыяльных умовах ня жыў, душою імкнецца да сваёй сінявокай Бацькаўшчыны, жадаючы ёй міра, ладу, квітненьня. Зь іншага боку, Беларусь думае пра сваіх дачок і сыноў, раськіданых па ўсім сьвеце. У прыватнасьці, згуртаваньне беларусаў сьвету «БАЦЬКАЎШЧЫНА» шмат робіць дзеля таго, каб аб 'яднаць беларусаў незалежна ад іхняга месца жыхарства, забясьпечыць іх кантакты з Радзімай, яе культурай і мовай, наладзіць узаемапаразуменьне беларусаў зь іншымі народамі, дапамагчы беларусам замежжа вырашыць некаторыя сацыякультурныя, маральнапсіхалягічныя і эканамічныя праблемы. У імя вырашэньня гэтых і іншых задач у наш няпросты час, калі ўсталёўваюцца новыя межы, мытні, кардоны, і склікаюцца два вялікія зьезды беларусаў у Менску. 19—20 сьнежня 1992 года адбудзецца Сход беларусаў былога СССР, а ў ліпені 1993 года — Першы форум беларусаў сьвету.**

**Са Звароту да землякоў аргкамітэта Рады Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына».**



ВАРШАВА (Наш кар.). Рушылася ў палітыку самае маладое пакаленьне інтэлігентнай беларускай моладзі. На чале са студэнтам першага курса палітэхнічных навук Варшаўскага унівэрсітэта Яцакам Пракапюком арганізуецца ініцыятыўная група дзеля ўтварэньня Беларускай партыі нацыянал-лібералаў крайне правай арыентацыі.

**На здымку: малады палітык Я. Пракапюк шчыруе перад журналістамі.**

## *Чароўныя гукі юнай Беларусі*

На мінулым тыдні ў Горадні адбыўся конкурс юных кампазітараў «Надзея-92», прысьвечаны Максіму Багдановічу.



У ім бралі ўдзел каля сарака дзяцей ва ўзросьце ад васьмі да васемнаццаці гадоў з Горадні, Ліды, Ваўкавыска, Менску, Брэста, Барысава і іншых гарадоў Беларусі. Такі конкурс у нашай краіне праводзіўся ўпершыню.

Юныя кампазітары выконвалі свае музычныя творы, напісаныя на вершы М. Багдановіча і іншых беларускіх паэтаў. Упершыню заля Новага замка ў Горадні пабачыла таленавітых беларускіх дзетак васьмі-дзесяці гадоў, у якіх ужо напісана каля 20—30 сваіх музычных твораў.

**(Працяг на 5 стар.)**

## *СЬЦІСЛЫМ РАДКОМ*

У мінулую нядзелю ў гарадзенскім фарным касьцёле пад час малітвы за памершых успаміналася імя прафэсара М. Ткачова. З гэтай нагоды на імшы прысутнічалі ня толькі каталікі.

У касьцёле таксама былі жаўнеры Беларускага Войска. У Савецкай Арміі такое забаранялася.

* * *

6 сьнежня ў сядзібе Саюза палякаў Беларусі адбылася канфэрэнцыя, прысьвечаная дзеям Арміі Краёвай.

**П. С.**

* * *

Прыгожую кніжку з каляровымі малюнкамі аб прыгодах гэрояў мультыплікацыйных фільмаў Уолта Дыснэя выпусьцілі на беларускай мове,— накладам 50 тысяч паасобнікаў. А парупіліся аб гэтым у Эстоніі, у сумесным прадпрыемстве «Эгмонт — Грунвальд» (дацка-эстонскім).

Рэдактар выданьня, — спадар Валеры Чыжык. Дарэчы, гэтую цудоўную кніжку для дзяцей можна было набыць у Гарадзенскім магазіне «Мэлодыя».

Ну што ж, прыемны сюрпрыз. Магчыма, і ў Беларусі падумаюць аб выданьні папулярных кніжак па-беларуску.

**М. В.**

* * *

На канцэрце піяністкі зь Японіі з прыемнасьцю пабывалі гарадзенкія аматары сур 'ёзнай музыкі. Госьця выступала ў зале дзяржаўнага унівэрсітэта імя Янкі Купалы. У яе выкананьні прагучалі творы славутага кампазітара Фрэдэрыка Шапэна, а таксама музыка японскіх аўтараў.

Слухачы даведаліся, што спадарыня Акіка Такао займалася ў Варшаўскай кансэрваторыі, стала лаўрэатам некалькіх міжнародных конкурсаў, а ў Горадні яна пабывала ўпершыню.

**М. В.**

## ПАСТЫРСКАЕ СЛОВА НА БОЖАЕ НАРАДЖЭНЬНЕ

**КАХАНЫЯ БРАТЫ І СЕСТРЫ!**

Пасьля доўгіх дзён чаканьня мы ўведалі радасную навіну аб нараджэньні Ісуса Хрыста, Сына Божага, «які стаўся чалавекам, каб нас усіх праводзіць да Бога ў небе» (сьв. Аўгусьцін).

Радасьць і шчасьце напаўняюць нашыя сэрцы. Бо Бог ёсьць Любоў, ён не пакіне нас сіротамі, але дасьць нам найкаштоўнейшы дар у Ісусе Хрысьце.

Таму ў гэты вігілійны вечар, у гэтае сьвята Божага Нараджэньня я хачу падзяліцца з кожным з Вас Белым Хлебам — аплаткай, якая аб 'ядноўвае і вядзе да прабачэньня й згоды, вядзе да Бэтлеэмскага хлява, дзе чакае нас народжаны Ісус. Бэтлеэмам для кожнага з нас зьяўляецца парафія, дзе Хрыстос нараджаецца зноў і запрашае на вячэру, каб нас накарміць на шляху да неба.

Хачу падзяліцца гэтым Белым Хлебам з кожным сьвятаром, дзякуючы за душпастырскую працу.

Дзялюся гэтым Белым Хлебам з Сёстрамі законнымі і катэхізатарамі, якія аддаюць свае сэрцы і душы, каб дзеці і моладзь здолелі спасьцігнуць праўду, якой ёсьць Ісус Хрыстос.

Дзялюся гэтым Белым Хлебам з пакутнікамі, хворымі, сіротамі і беднымі, аб якіх мы часам забываемся. Зычу Вам, каб свае пакуты лучылі з пакутамі Хрыста за збаўленьне тых, хто яшчэ не адчувае любові Божае.

Дзялюся гэтым Белым Хлебам зь дзецьмі і моладзьдзю. Вы — надзея Касьцёла Хрыста, Вы — надзея каталіцкіх сем 'яў, якія жывуць паводле Божых запаветаў. Любіце Ісуса і не забывайце пра навучэньні на занятках па рэлігіі.

Трэба больш пільна ўглядзецца ў гэтую Бэтлеэмскую сям 'ю, дзе Ісус, Марыя і Язэп для кожнага дзіцяткі, для ўсіх бацькоў зьяўляюцца прыкладам здаровай, моцнай і шчасьлівай сям 'і.

Нарадзіны Ісуса — гэта покліч усіх дзетак, якія яшчэ пад сэрцам маці, каб яны маглі ўбачыць Сьвет Божы.

Таму гэтым Божым Хлебам дзялюся з кожнай сям 'ёй, дзе бацька і маці зьяўляюцца добрым прыкладам сваім дзецям.

Бэтлеэмская зорка ўкажа ўсім людзям добрай волі, кожнаму з нас добрую дарогу, калі мы дазволім Ісусу прыйсьці ў нашае жыцьцё.

Зычу ўсім ад усяго сэрца Божых ласкаў, якія прынёс наш Ісус Хрыстос. Марыя — наша Маці, няхай разам са сьвятым Язэпам яны будуць нашым паратункам. Маленькі Ісус, Хрысьце Божа, сардэчна просім Цябе, каб ты зноў нарадзіўся сёньня ў нашых сэрцах, няхай жа адбудзецца Бэтлеэмскі цуд!

НА ДНІ РАДАСЬЦІ АД НАРАДЖЭНЬНЯ ІСУСА ХРЫСТА І НА КОЖНЫ ДЗЕНЬ ЖЫЦЬЦЯ З БОГАМ, АД СЭРЦА БЛАСЛАЎЛЯЮ

АЛЯКСАНДР КАШКЕВІЧ

БІСКУП ГАРАДЗЕНСКІ.

## *АДЗНАЧЫЛІ УГОДКІ СЛУЦКАГА ПАЎСТАНЬНЯ*

***У Гарадзенскім гарадзкім Доме культуры адбылася акадэмія з нагоды 72-х угодкаў Слуцкага паўстаньня. Адзначыць сьвята прыйшлі больш за сто чалавек. Гучалі прамовы аб случчаках, вершы. Аматарскі хор клюба «Паходня» выканаў беларускія песьні і гімны.***

**Г. А.**

## АД ФІРАНАК ДА БРОНЕКАМІЗЭЛЯК

Ня маючы тканіны, каб поўна задаволіць попыт насельніцтва на фіранкі ды іншыя хатнія набытовыя рэчы, фабрыка мастацкіх вырабаў у Горадні мае хоць крыху зарабіць валюты. У хуткім часе яна пачне выраблять часткі бронекамізэляк для Каралеўства Вялікабрытанія.

Ужо існуе пагадненьне паміж кіраўніцтвам фабрыкі і ангельскай фірмай, назва якой трымаецца ў сакрэце. У Горадні для ангельцаў будуць шыць аснову да бронекамізэляк і адпраўляць заказчыку, які на месцы будзе ўзмацняць камізэлькі бронелістамі. Цікава, што на фабрыцы ніхто ня ведае, хто ж канкрэтна будзе насіць тыя камізэлькі.

**Г. С.**

Рэпліка

# ЧАС ПАКАЖА

У апошнія дні ў друку і па тэлебачаньні прамільгнулі паведамленьні аб паездцы дэпутатаў фракцыі «Беларусь» у Вільню, дзе іх прыняў толькі што абраны старшынёй летувіскага Сойму А. Бразаўскас.

Вярнуўшыся, дэпутаты не хавалі сваёй радасьці. А як жа: камуністы прыйшлі да ўлады, а «Саюдзіс» у апазыцыі! Але годзе, панове, радавацца і праводзіць паралелі. Па-першае, не камуністы прыйшлі да ўлады, а па-другое — ці можна параўнаць Бразаўскаса з Сакаловым ці Малафеевым? Першы — рэфармаваў КПЛ у Сацыял-дэмакратычную партыю і цьвёрда стаяў за незалежную Летуву. А нашы «першыя»?

Усе мы ведаем, якія каштоўнасьці яны баранілі, усім вядомы адносіны КПБ і іх нашчадкаў ПКБ да незалежнасьці рэспублікі і дзяржаўнасьці беларускай мовы.

Што можна сёньня пачуць ад дэпутатаў, прыхільнікаў ПКБ на сэсіі Вярхоўнага Савета? Зьнявагу дзяржаўных сымболяў Беларусі, настальгію па СССР, заклікі да наданьня расейскай мове статуса дзяржаўнай...

Часта можна пачуць пра нацыянальнае раўнадушша і памяркоўнасьць беларусаў. Згодзен з гэтым, але упэўнены, што партыя з такім антыбеларускім накірункам ня мае на гэтай зямлі будучыні.

**Георг СЫСОЙ,**
**дэпутат Гарадзенскага гарсавета.**

Да сходу беларусаў

# САЛЕЧНІКІ НА РАЗДАРОЖЖЫ

**Шальчынінскі раён, а па-наску Салечніцкі, можна назваць люстэркам Віленшчыны, гэраічнага й трагічнага беларускага лёсу ўвогуле. Празь яго ціхія рэчкі, нястромыя ўзгоркі, векавечныя бары пралягалі шляхі Скарыны, Багдана Онкава, Цяпінскага, паўстанцаў Касьцюшкі, Агінскага, Каліноўскага, паэтычных музаў Багушэвіча, Багдановіча, Купалы, Цёткі. Тут вялікі Міцкевіч сустракаўся з Марыляй. «Скажы, аб чым задумаўся, скажы, наш атаман»,— сьпявалі паўстанцы Ваўпшасава ў 1925 годзе...**

Апошняй трагэдыяй для краю стала летувіска-беларуская мяжа. Ціхенькая рачулка пасярод вёскі. На адным беразе хата гаспадара, на другім — ягоны сьвіран. А рачулка — мяжа. Пакуль, праўда, за яе парушэньне не караюць. Пакуль што... У кожнай тутэйшай вёсцы гучыць чысьцюткая беларуская мова, на сьвятах сьпяваюць беларускія народныя песьні. А словы плачу па нябожчыку магчыма захаваліся яшчэ ад часоў Рагнеды.

А побач з гэтым 80 працэнтаў пашпартных палякаў, дзесяткі польскіх школ. «Пан ест поляк»,— чуецца з касьцёлу. «Тшэба мувіць по-польскему»,— заклікае інтэлігенцыя, аблашчаная шчодрымі дарункамі з Польшчы. Супраць іх чуваць дзяржаўніцкі голас: «Усе вы — асланяненыя летувісы». А ён, мой зямляча, стаіць на крыжовай дарозе, з усімі згаджаецца й напявае пaціху: «Пройдзе хмара, пройдзе хмара, сонца зазіхоціць. Прыйдзе браце, прыйдзе браце, прыйдзе — азалоціць».

А братка той затрымаўся, як затрымліваўся ён стагодзьдзямі. Нешматлікія беларускія суполкі на Віленшчыне толькі яшчэ шукаюць свой шлях. Шукае яго і згуртаваньне беларусаў Шальчынінскага раёну «Беларускае таварыства». Створанае тры гады назад, яно ўнесла адметны адбітак ў жыцьцё наваколья. Зь яго рэкамэндацыямі абітурыенты мясцовых школ паступаюць у ВНУ Беларусі, больш за траціну студэнтаў беларускага факультэту ў Віленскім пэдагагічным унівэрсітэце складаюць нашы салечніцкія. Беларускія канцэрты мастацкай самадзейнасьці, гурткі, факультатывы — усё гэта стала сфэрай уплыву Таварыства. Падтрымкі яго шукаюць кандыдаты ў дэпутаты Сойму Летувы, уласных кандыдатаў Таварыства вылучыла ў раённую Раду. Не стаіць яно збоку, калі беларусы, й ня толькі яны, заклапочаны працаўладкаваньнем.

Энтузіязм добры для кароткатэрміновай справы, але беларускае адраджэньне на Віленшчыне — не кампанія. Вось чаму ўжо амаль год Таварыства займаецца стварэньнем у салечніках Беларускага культурнага цэнтру. Толькі падобныя цэнтры, забясьпечаныя штатнымі супрацоўнікамі, абсталяваныя змогуць адрадзіць беларушчыну у нашым краі. Шкада, што гэта не заўсёды разумелі ўлады Беларусі. Калі б хоць палову з таго, што робіцца для летувіскай меншасьці ў сумежных раёнах Беларусі, мелі мы, дык многія нашыя праблемы ўжо маглі не існаваць.

Будучыня беларускага замежжа (чым ёсьць і Віленшчына) бачыцца ў разьвіцьці камэрцыйных суполак і іхнем супрацоўніцтве зь Беларусьсю. Прычым гэта павінна быць дарога з двухбаковым рухам. Для гэтага павінна існаваць спрошчаная магчымасьць ліцэнзаваньня і крэдытаваньня. Аднак першай сваёй мэтай наша Таварыства лічыць стварэньне ў краі беларускай адукацыі і дзіцячых садкоў. Самым простым шляхам магло б быць увядзеньне беларускай мовы як прадмета ў школах Віленшчыны. На жаль, летувіскія ўлады не выказваюць зацікаўленьня. Патрэбна нам і беларуская штодзённая газэта.

**Мне б хацелася, каб на Сходзе беларусаў блізкага замежжа былі вырашаны тры патаньні: 1. Як нам зарабляць грошы для культурна-асьветных мэтаў? 2. Стварэньне сістэмы нацыянальнай адукацыі. 3. Наладзіць беларускі друк за мяжой і выданьні для замежжа на самой Беларусі.**

**П. МАЛАФЕЙ,**
**старшыня Беларускага культурнага цэнтра, г. Салечнікі.**

# Чэха-Славаччына: РАЗВОД ПА-ЭЎРАПЭЙСКУ

Чэхаславацкая дзяржава ўтварылася 28 лістапада 1918 года. Чэхам са славакамі болей пашанцавала, чымсьці нам, беларусам. Гэапалітычнае становішча іхняй дзяржавы было выгаднейшым за нашае. А галоўнае, што яе пажадалі падтрымаць і цалкам прызналі краіны Антанты. Вялікая роля ў гэтым належала першаму прэзідэнту новага краю славаку Тамашу Масарыку.

Славакам жа быў вядомы «жалезны» Людвіг — прэзідэнт ЧССР Л. Свобада, які ў сваёй роднай, слабейшай за Чэхію прамыслова Славакіі моцна разбудаваў цяжкую прамысловасьць. Славакам быў і славуты гэрой пражскай вясны Аляксандр Дубчак, які гэтай восеньню быў пахаваны ў Братыславе й труну якога ўкрылі супольным чэхаславацкім сьцягам.

Чэхія са Славакіяй аднак разыходзяцца пасьля 74 гадоў супольнага мірнага жыцьця, разыходзяцца спакойна, без вайны, па-эўрапэйску. Чаму? Чэхі са славакамі сапраўды ніколі не ваявалі, рэдкі ў эўрапэйскай гісторыі выпадак. Аднак у іхняй супольнай дзяржаве ўсё ж пераважаў чэшскі элемэнт, як у БССР — расейскі (але гэта розныя прыклады). Славакаў чэхі не задумваючыся называлі чэхамі (як нас расейцамі), нават Татры мянавалі Чэшскімі, хаця яны знаходзяцца на славацкай тэрыторыі. Цікава, што з Прагі хадзіла болей цягнікоў да Варшавы, чымсьці да Братыславы. Але ні адная з гэтых прычын не зьяўляецца важкой, усе яны і яшчэ шмат іншых важаць сукупна.

Зразумела, што чэхі ня хочуць разьяднаньня. Анічога дзіўнага: чэшскі элемэнт пераважаў у дзяржаве. Змаганьне за гэты акт адбывалася паміж славакамі і славакамі. Падобна як і ў нас — адныя не хацелі й ня хочуць жыць у незалежнай Беларусі. Справа ў тым, што сьвядомыя славакі жадаюць жыць у сваёй дзяржаве, якую яны мелі толькі аднойчы і ня ў лепшыя часы — за немцамі. Славакам заманулася змагчы свой непаўнавартасны, адносна чэхаў, комплекс. Яны гавораць: мы ніколі ня мелі сваіх каралёў і фабрыкантаў, а толькі ксяндзоў і настаўнікаў. Аднак гэта зусім ня значыць, што мы ня здатныя пабудаваць уласную сувэрэнную дзяржаву. Умовы для гэтага стварыліся ў новай Эўропе толькі сёньня. Няхай славакам пашанцуе, яны вартыя гэтага. Мяжа паміж дзьвюма дзяржавамі будзе суздром эўрапэйскай: са шлагбаўмамі, але без калючага дроту.

**С. А.**

Вайсковыя зацемкі

# Тэма для студэнтаў Сарбоны

## 1.

За вакном па шашы возяць цяжкія танкі. Шыбы трымцяць. Сёньня у адзін бок вязуць, заўтра назад. Праз тыдзень прачытаеш у газэце, што былі вучэньні. Прыязджаў, нібыта, сам спадар міністр абароны.

І год, і два, і пяць таму іх таксама вазілі, тыя танкі. А можа й ня тыя. Бо лепшыя, сучасьнейшыя, кажуць, расейскія патрыёты прадалі некуды або перапраўілі ў матухну-Расею. Некаторыя сьледам самі зьехалі. Вось і наш гэнэрал Чаляднікаў залатвіў усе справы й з´эміграваў на радзіму. Пачакай, ці гэта не ў яго была ўлюбёная прыгаворка «эти ё...ые демократы»? Не, гэта ў іншага ягонага земляка. Няхай едуць, меней будзе непаразуменьняў.

Даўней тыя танкі ўначы пераважна перлі, гадзіны ў 2—3, абудзяць грукатам, падыйдзеш да вакна, у думках паіранізуеш: ці не закалат палкоўнікаў? Аднойчы, напярэдадні 19 жніўня гэтак і здарылася. Мужыцкія хітрыкі, людзям спаць не даваць, палохаць. Можна падумаць, амэрыканскія спадарожнікі ноччу нічога ня бачаць.

Тады гэтыя танкі называліся савецкімі. А цяпер што — беларускія?

## 2.

Вось шумелі мы, шумелі. Маўляў, Беларускае войска прысягі беларускаму народу не дае. Міністэрства абароны правакатарамі абзывала. Нацдэмамі, здаецца. А ў думках, вядома, сволаччу недабітай і памацней, па-руску.

А цяпер вось думаеш, калі дамагліся свайго й вышняя ўлада мусіла прыняць адпаведныя рашэньні: а ці слушна мы рабілі? Зрэшты, у справядлівасьці тадышняга абурэньня й закідаў няверы сёньня быць ня можа. Усе да апошняга афіцэра і прапаршчыка прысягалі СССР. Раптам у галовы што ўдарыць аднавіць «нябожчыка»? І ўвогуле неэтычна нейкесьці наш хлеб й намі грэбаваць. Нарэшце абсурдна, калі жаўнеры народу прысягаюць, а афіцэры — не. Што яны, швэйцарскія найміты якія-небудзь? Цяжка сабе ўявіць, прыкладам, брытанскую армію зь нямецкімі афіцэрамі.

Стаіць сабе немаведама чыё войска, а да яго яшчэ падмацаваньні зь Нямеччыны цягнікамі прысылаюць. Й толькі лямант: давай пэнсіі, давай кватэры. Што ў нас тут, край Ракфэлераў? Усё адно як бы амэрыканцы не вывозілі сваё войска зь Нямеччыны, а звальнялі яго на месцы, ды дадаткова яшчэ з Англіі сюды ж выводзілі... Беларусь вельмі даўно ёсьць краем ненармальнасьцяў.

Чаму ж доўгі час існавала патавае становішча з той злашчаснай прысягай? Міністэрства абароны ды іншыя дзяржаўныя інстытуты ня мелі патрэбы ў ёй або не ўсьведамлялі яе. Але галоўнае, тамака баяліся злаваць зьвера. Вялізная армада не толькі не выказвала жаданьня прысягнуць, але наадварот — не хавала свайго нежаданьня й раздражненьня, а таксама абразы сваёй савецка-расейскай вышэйшасьці. Жаўнеры хай нейкім там беларусам прысягаюць. Расейскае афіцэрства мае блакітную кроў. Карміць можна па-рознаму. Да афіцыянта павагі не адчуваюць. А што расплочваешся ягонымі ж грашыма, дык можна й зусім адмовіць, паслаць на тры літары. Маўляў, гусары денег не берут-с!..

А-я-яй, а які ж быў вэрхал усчаўся! Нічога ў вайсковым пытаньні не разумееце! Экстрэмісты! Халера з вамі, з гэткімі «добрымі», будзьма самі 8-га верасьня прысягаць... Нацыяналісты-экстрэмісты!!! Знаёмая, бальшавіцка-савецкая песьня. Яны дзеля гэтага нават учынілі бязглузды, унікальны ў гісторыі фінт: зацьверджаную на пачатку года Вярхоўным Саветам вайсковую прысягу абвясьцілі несапраўднай. Маўляў, прысягнулі рэзэрвісты 8-га верасьня на фількінай грамаце, бо яна сапраўдная толькі для жаўнераў, а для афіцэраў — не, для іх калісьці будзе новая, адмысловая. Так, адпачатку мы бачылі, што прысяга прыймаецца абыякая, але ня мы яе вымысьлілі й пад той важны быў ня тэкст, а менавіта сама падзея.

Так-так, увесь час іх, прабачце, пад дупу піхаць трэба. У гэтым і заключаецца унікальнасьць беларускай дзяржаўнасьці. Пабачыце, усё гэта яшчэ будзе вывучацца ў Сарбоне й Гарвардзе.

Мы патрабуем, яны адпіхваюцца, абзываюць нас усяляк, а потым нарэшце зьбіраюцца й прымаць тое, чаго мы дамагаліся: пачак вайсковых дакумэнтаў, у тым ліку аб вяртаньні афіцэраў-беларусаў і ўсё астатняе. Значыцца, не дарма змагаліся? Аднак асаблівай радасьці няма. Спачатку, але неадкладна трэба было, каб нашыя афіцэры вярнуліся, а зь імі па магчымасьці замяніліся расейцы. А так беларусы мусяць прысягаць Расеі, расейцы, скрыгочучы зубамі,— нам. Будзе, праўда, яшчэ кантрактная сістэма. Але ня можа ж 80 працэнтаў афіцэрскага корпусу быць «кантрактным»?! Карацей, праблемаў толькі паболее. Дык хаця б такому, небеларускаму, войску можна было даверыцца (хай бы ў ім хоць мурыны служылі)... Няма пэўнасьці. Расея побач, плюс частка войска на Беларусі нават юрыдычна будзе падпарадкавана расейскаму гэнштабу, а ўсё разам — Маскве таксама, маршалу Шапашнікаву.

За что боролись, на то и напоролись...

Клясічная форма дзяржаўнага пратэктарату.

## 3.

Летува з Горадняй побач. Летувісы даўным-даўно стварылі вайсковы дэпартамэнт, свае бяззбройныя напачатку адзьдзелы. Яны поўнасьцю адмежаваліся ад СА, часткі якой кватаруюць у краі. У чым дадатнасьць гэтага кроку? У магчымасьці мець мінімальны вайсковы бюджэт. Аднак зброю давядзіцца тады купляць у Расеі за даляры.

Мы абвясьцілі амаль ўсё савецкае войска на нашай тэрыторыі сваім, вырашыўшы адразу пытаньні яго ўтварэньня й ўзбраеньня. Тым жа часам мы ўсьцягнулі на сябе вялізарны цяжар утрыманьня 200—250-тысячнай армады. Як на 10-мільённую краіну, дык гэта й занадта. Скарачаць жа гэтае вялікае войска для нас таксама задорага. Адзін камуністычны дэпутат увёсну вельмі абураўся гэтым: паколькі войска вымагае вялікія грошы, Беларусь можа абыйсьціся зусім безь яго. Маўляў, нам ніхто не пагражае, трэба лепш займацца чарнобыльскімі праблемамі. Фармальна ўсё нібыта слушна. Але адцягваць са стварэньнем войска, пакуль на нас не нападуць, яшчэ больш глупа. Сёньня нарэшце вырашана адлічваць на вайсковыя патрэбы 10% бюджэту. Не зьбяднеем, затое суседзі будуць паводзіцца раўнаважна.

Такім чынам, мы будзьма мець з Захаду скарочанае на 100 тысяч, але большае за наша ўдвая-удвая з паловай войска, яшчэ большае з Поўдня, а пра Ўсход лепей зусім змаўчаць. Што датычыць Летувы, дык тамака вельмі жаляцца, што не ўтрымаць болей за 8—10 тысяч войска. Рэальней выглядае лічба ў 18—20 тысяч, якая трапіла ў друк уперад. Значыцца, самай бясьпечнай для нас будзе паўночна-заходняя і паўночная межы.

Застаецца спадзявацца, што ажыцьцявіцца нэйтралітэт нашае дзяржавы: ані мы ні на кога ня будзьма нападаць, аніхто іншы — на нас.

## 4.

Словы вышэйспамянёнага камуністычнага дэпутата маюць у сабе й пэўны кантэкст: нам грошы на войска шкада, хай іх выдаткуе Расея й мы будзьма трымаць і карміць на сваёй тэрыторыі Расейскую Армію!!!

Савецкія гэнэралы нашага войска любяць скардзіцца на тое, што нам на хапае сваіх навабранцаў, таму лепш захаваць старую практыку: узбэкаў да нас, нашых хлопцаў — на аўганскую мяжу і ў тундру. Не хапае й хапаць ня будзе, калі спраўна забясьпечваць сваё нескарочанае войска, ды яшчэ (калі ласка!) расейскія стратэгічныя сілы на Беларусі. Дык дзе ж лёгіка? Няма яе.

Але вернемся да нашых межаў. Прыняты дакумэнты аб арганізацыі іхняй аховы. Складаецца аднак уражаньне, што апроч заходняй маюць сьцерагчыся яшчэ толькі паўночную, бо з цяжкасьцю можна паверыць, быццам бы 6 тысяч пагранічнікаў будзе досыць, каб ахоўваць усю беларускую мяжу па пэрымэтры. Дзяржава, якая ахоўвае толькі палову сваіх межаў, лічы не ахоўвае анічога.

А пакуль рэарганізацыя Беларускага войска пачалася з заходняй часткі, 1-я і 2-я брыгады створаны ў Горадні і Слоніме. А наш міністр абароны атрымаў новыя наплечнікі не ад прэзідэнта, а ад чужога маршала Шапашнікава. Зрэшты і сам Шушкевіч стаў палкоўнікам зь ягонай жа ласкі.

Неўзабаве 31-е сьнежня. Прысяга афіцэраў адбудзецца «у індывідуальным парадку», каб ашчадзіць самалюбства рускіх афіцэраў! Гэта таксама будуць вывучаць у тым Гарвардзе. Уяўляю сабе знаёмага палкоўніка Н., які мае добрую кватэру, самаход, лецішча, але надта ж мацярыць беларусаў за неабходнасьць ім прысягаць. Цікава было б паслухаць, як ён стане нявечыць «брыдкія» беларускія словы, вымаўляючы тую «ненавісную» прысягу. Дзеля ашчаджэньня самалюбства расейскі тэкст беларускай прысягі — адзінае выйсьце...

**Капітан В. СІКОРА.**

## ГОСЬЦІ ЗЬ НЯМЕЦКАЙ ЦАРКОЎНАЙ ШКОЛЫ

Днямі Навагрaдзкую праваслаўную епархію наведала дэлегацыя царкоўнай школы горада Білефэльда, што ў Нямеччыне. Узначальваў гасьцей сам рэктар — прафэсар Франк Крузэман. Выкладчыкаў і студэнтаў вышэйшай царкоўнай школы цікавілі найбольш пытаньні, якія датычацца месца і ролі рэлігіі ў нашым грамадзтве. Госьці бралі ўдзел у богаслужэньні, азнаёміліся са славутым старадаўнім Навагрaдкам, а таксама былі на афіцыйным прыёме ў мясцовым гарвыканкаме.

Затым дэлегацыя зь Нямеччыны наведала вёску Уселюб, мястэчка Іўе, Ліду, Бярозаўку, Жыровіцы... Пад час візыту для гасьцей была наладжана сустрэча з выхаванцамі Навагрaдзкай нядзельнай школкі, якой госьці перадалі ў дар значную грашовую дапамогу. На будучыню паміж Навагрaдзкай епархіяй і вышэйшай царкоўнай школай у Білефэльдзе заключана дамоўленасьць абменьвацца дэлегацыямі і падтрымліваць сяброўскія адносіны.

**М. МІХАЛЕВІЧ.**

## У ЦУРЫХСКІМ УНІВЭРСІТЭЦЕ



Спадарыня Моніка Банькоўская-Зульліг сёлетняй восеньню наведала Горадню ў навуковых мэтах. Яна навуковая супрацоўніца Цурыхскага універсітэта, славістка.

Госьця добра размаўляе па-беларуску, гаворыць нясьпешна, слушна падбіраючы словы. Па яе прызнаньні, калі два гады назад яе запрасілі ў Міжнародную школу беларусістаў і яна ўпершыню наведала Менск, дык размаўляць па-беларуску яшчэ не магла, хоць разумела гутарку.

А знаёмства спн Монікі з нашай мовай даўняе. Дваццаць гадоў чытае газэту «Літаратура і Мастацтва», праўда прызнаецца, што раней яна была ня дужа цікавай. Сёньня, апроч «ЛіМа», яна таксама атрымвае «Народную газэту» і «Культуру». Прозьвішча госьці дае падставу меркаваць, што яна мае славянскія карані. Аказалася аднак, што гэта яе муж — польскі беларус, паводле прафэсіі праваслаўны тэолаг, пазнаёміліся яны ў Польшчы. Сама спн Моніка карэнная швэйцарка, у іх у Цурыху пераважна размаўляюць на нямецкай мове, дыялектнай да літаратурнай, а таму не вельмі зразумелай для саміх немцаў.

Беларускіх сьлядоў за апошнія стагодзьдзя-паўтара ў Швэйцарыі небагата. Адзін нумар выдадзенай у Цурыху беларуска-летувіска-польскай газэты «Зговар» (друкарня С. Касабродзкага), якую аднак адшукаць не ўдалося, ды перакладная з украінскай мовы кніжка С. Падалінскага «Пра багацьце ды беднасьць» (Жэнева, 1881) — вось бадай і ўсё. Іншая справа часы Рэфармацыі. Тады ў Цурыхскім унівэрсітэце і Жэнеўскай акадэміі навучалася многа студэнтаў зь Вялікага Княства Літоўскага. Цяжка толькі вызначаць іхнюю нацыянальную прыналежнасьць як на сёньняшні дзень. Зрэшты, большасьць зь іх пісаліся ліцьвінамі...

У Швэйцарыі, зразумела, вельмі мала ведаюць пра Беларусь. Нават у сувязі з чарнобыльскай аварыяй у друку паведамлялася пераважна пра Украіну. Беларусь са Швэйцарыяй не наладзілі дыпляматычных адносін, таму спн Моніцы давялося зьвяртацца ў расейскае консульства, дзе ўзьнікла непаразуменьне з-за запрашэньня, якое было складзена на беларускай мове. Імкненьне да кантактаў, праўда, ужо існуе. У адным з кантонам вырашылі запрасіць да сябе беларускую дэлегацыю. На запрашэньне прыехалі артысты, якія размаўлялі па-расейску і сьпявалі расейскія песьні...

Швэйцарская беларусістка добра разумее нашы праблемы, зьвязаныя з адраджэньнем нацыянальнай мовы-засільле расейскай прэсы, русіфікаваная псіхалёгія беларусаў і г. д. Адначасова яна перакананa, што на Беларусі павінна быць адна дзяржаўная мова — беларуская.

**С. А.**

*Беларусы ў сьвеце*

# *Тэтфар «у кішэні» беларуса*

**Жорсткі лёс, палітычныя інтрыгі, эканамічныя катаклізмы разкідалі па кутах сьвету нашых землякоў. Па-featрознаму склаўся іх жыцьцёвы лёс. Часам, так і ня ўбачыўшы болей Радзіму, яны адыходзяць у нябыт на чужыне.**

**На шчасьце, наша беларуская дзяржава пачынае пакрысе адраджацца, і лёс беларусаў за мяжой цяпер не абыякавы для бацькаўшчыны. Газэта «Пагоня» будзе стала спавядаць на сваіх старонках аб жыцьці беларусаў у далёкім і блізкім замежжы.**

Калі войска польскае гэнэрала Сікорскага было пачаткова расфарміравана ў Італіі, майму дзядзьку, дваццацігадоваму шэрагоўцу Кастусю Пляшко, эмісары-вербаўшчыкі прапанавалі замест вяртаньня на Беларусь некалькі краін заходняй Эўропы.

Дзядзька выбраў Вялікабрытанію, дзе і апынуўся ў чэрвені 1945 года.

Такіх жа маладых, здаровых хлопцаў у Англію прыехала некалькі тысяч. Фактычна адразу ім знайшлася праца, усе трапілі на будоўлю аднаўляць зьнішчанае вайной. Плацілі хлопцам нядрэнна (успамінае дзядзька Кастусь), за працоўны тыдзень можна было зарабіць каля ста фунтаў стэрлінгаў, але былі і праблемы, хітруны англічане побач з інтэрнатам, дзе жылі працоўныя эмігранты, разьмясьцілі шмат шынкоў, якія працавалі дзённа і ночна. Напачатку будаўнікі з ахвотай наведвалі гэтыя месцы, пасьля чаго з пустымі кішэнямі вярталіся ў інтэрнат. Зразумеўшы наўмыснасьць гаспадароў, дзядзька прыпыніў свае паходы, і пачаў зьбіраць грошы. Паднакапіўшы, пайшоў на платныя курсы ангельскай мовы, а затым без адрыву ад працы вывучаў на вячэрніх студыях справу прыватнага бізнэсу.

Англічане ацанілі ўпартасьць маладога беларуса і прапанавалі узяць брытанскае грамадзянства. І ў хуткім часе спадар Пляшко стаў грамадзянінам Вялікабрытаніі. Пабраўся з англічанкай, а папрацаваўшы на будоўлі да 1950 года, разбагацеў, што змог купіць аднaчасова два кітайскія рэстараны.

Свая справа, гэта — споўненая мара, і вось навасьпечаны англічанін працуе па 18 гадзін у суткі, вывучае традыцыі, гісторыю, адметнасьць ўсходніх страў, яго справы ідуць ўгару, і ўжо ня два, а цэлых пяць рэстаранаў у усходнім стылі працуюць у Тэтфары. Але зь цягам часу кухонная справа абрыдла Кастусю, яму хочацца паспытаць сябе ў сапраўднай справе. Лёс даў яму шанц, на аукцыёне з малатка прадавалі збанкрутаваўшую домабудаўнічую фірму. Уклаўшы амаль усе свае грошы, прадаўшы рэстараны, дзядзька Кастусь становіцца ўласьнікам збанкрутаваўшай фірмы.

Як узьняць яе на ногі? Пытаньне не рытарычнае, ён пачынае шукаць інвэстараў, тлумачыць пэрспэктыву, дзеля якой набывалася фірма. Каго пераканаўшы, а каго й проста упрасіўшы, удаецца знайсьці крыдыты для рэканструкцыі. Кемлівасьць падказала, што ў Англіі пасьля вайны не хапае парканаў, і першы аднаўлены участак выпускае стандартныя драўляныя парканы. Праца ідзе нядрэнна, памалу выплочваюцца крэдыты, што дае ўпэўненасьць тым, хто са страхам ішоў на такое мерапрыемства. Банкі пачынаюць верыць у справу, і ахвотна выдаюць сродкі. На іх няўрымсьлівы беларус поўнасьцю заканчвае рэканструкцыю і распачынае будаваць катэджы. І тут ён на хвалі посьпеху, таму што не сьпяшае за прыбыткам, а аддае перавагу якасьці, таннасьці сваёй прадукцыі.

Зь яго сьмяяліся, калі ён закладваў у каштарыс усяго чатыры працэнты прыбытку. Але гэта быў яго сакрэт, як прызнаўся сам Кастусь, у пасьляваенны час у Англіі было шмат эмігрантаў, ствараюцца мільёны маладых небагатых сямей, ім не па кішэні набыць каштоўны дом, а вось купіць невялічкі, танны ў крэды мог кожны, на гэта і быў разьлік беларуса — прадпрыймальніка, які за дзесяць год вывеў збанкрутаваўшую фірму ў лік лепшых у сваёй краіне, а затым з посьпехам інтэграваўся ў міжнародны бізнэс. Прадукцыя ягонай фірмы «АМОР» ідзе на ўсе пяць кантынентаў сьвету. Зараз у розных гарадах Вялікабрытаніі працуюць тры заводы, на якіх занята звыш пяцісот рабочых.

Час ідзе, і дзядзька некалькі год ужо на пэнсіі, справы вядуць сыны Паўлюк ды Міхась. Але ён ня спыняецца, і ў сталым узросьце распачаў будову гатэля з рэстаранам, ў якім будзе беларуская кухня, басэйн, більярдная, аўтастаянка, усё гэта, па словах дзядзькі, які быў сёлетнім летам на Беларусі, ствараецца ў спадчыну для малодшага сына Андрука, якому ўсяго сем гадоў.

У прыватнай размове спадар Кастусь шчыра прызнаўся, што толькі праца і беларуская талерантнасьць дапамаглі яму стаць адным з самых заможных людзей Тэтфара.

**Г. АСТРОЎСКІ.**

## БЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРА ПЛАЧА ЦІХЕНЬКА Ў КУТКУ...

Здавалася б, пасьля красавіцкіх падзей вакол вуніяцкага кляштара па вуліцы Д. Гарадзенскага ў Горадні запал у праваслаўных вернікаў зьменшыцца. Больш таго, ўжо ёсьць рашэньне аб перадачы адзінага ў Горадні вуніяцкага храма, збудаванага ў 17 стагодзьдзі, расейскай праваслаўнай царкве ў Беларусі. Сумная гэта тэма, ды і да мінулага гарачага красавіка вяртацца зноў ня хочацца. Толькі тое, як веруючыя ў Бога людзі прыходзілі і абражалі супрацоўнікаў музэя (у вуніяцкім храме месьціцца музэй гісторыі рэлігіі), з маёй памяці не зьнікне ніколі, ды і ў гісторыі нашага горада застанецца назаўсёды. Не па-хрысьціянску гэта, зусім не па-хрысьціянску...

Адзін з апошніх нумароў гарадзенскай газэты «Перспектива» стракаціць загалоўкам «Чей он, храм Рождества Богородицы?» Аўтар Сьвятлана Дуліна ставіць пытаньне ў сваёй нататцы: «Как быть, как примирить конфликтующие стороны?». Як бы хацелася, шаноўная Сьвятлана, каб вы калі-небудзь даведаліся, што ні аднаму з канфліктуючых бакоў гэты храм па Божаму праву не належыць. Можа нават некалькі стагодзьдзяў назад яго наведвалі і вашы продкі, беларусы-вуніяты, якія яго збудавалі. І паверце, Сьвятлана, быць вуніятам, гэта нічым ня горш, чым быць праваслаўным ці каталікам. А, дарэчы, храмам «Рождества Христова» ён стаў пазьней, калі нашым продкам расейскія цары забаранялі нават да Бога на роднай мове зьвяртацца.

Частка забудоў ўжо занята праваслаўнымі вернікамі. Музэй плануецца пераносіць у былы палац Храптовіча, што на Замкавай вуліцы. Палац рэстаўруецца, хаця такую рэстаўрацыю хутчэй можна назваць папросту рамонтам. Усё робіцца сьпешна, відаць, каб хутчэй заладзіць канфлікт, ды і матэрыялаў зараз патрэбных не стае. А сюды мы будзем пераносіць наша нацыяльнае багацьце, тое, што засталося ў спадчыну, чым ганарымся, што павінна застацца жыць і пасьля нас.

Цікава, што ў размове з супрацоўнікамі музэя выявілася такая дэталь: музэй абавязкова наведваюць прыезджыя людзі, часта з замежных краінаў. Зараз такіх у Горадні бывае шмат, часьцей бізнэсмэны, але яны падчас гадзінамі аглядаюць музэй. Сюды прыходзяць студэнты і школьнікі, проста звычайныя людзі, тут ладзяцца канцэрты клясічнай музыкі, у майстэрнях музэя аднаўляюцца старажытныя іконы, іншыя творы мастацтва. Супрацоўнікі музэя здолелі захаваць тут па-сапраўднаму сьвятое месца.

Аднак праваслаўныя вернікі пагражаюць за два дні ачысьціць памяшканьні, як некалі гэта зрабілі з будынкам дырэкцыі. Даходзіць нават да таго, што дзетак, якія прыходзяць у нядзельную школку, вядуць праводзіць заняткі ў залы з экспанатамі, дзе гэта пакуль забаронена, дзе ходзяць і працуюць іншыя людзі. Маўляў, у супрацоўнікаў музэя мы пытацца нічога ня будзем... Крыўдна, што дзеткі побач, вучацца...

Яшчэ ў красавіку Гарадзенскі гарвыканкам заняў бадай самую слушную пазіцыю ў адносінах да праваслаўных хадакоў — музэй нікуды ня будзе высяляцца, пакуль, як і належыць па закону, не падрыхтуюцца адпаведныя памяшканьні.

Дзіўна яшчэ і тое ў гэтай справе, што свае прэтэнзіі прыходзяць выказваць часьцей старэнькія бабулькі, пры гэтым пагражаючы «нейкім там інтэлігенцікам», а праваслаўныя сьвятары не зьвяртаюць на гэта ніякай увагі.

Само па сабе ўзьнікае пытаньне: дзеля чаго такая сьпешка, варожасьць да людзей, якія захоўваюць гісторыю нашага народа? Храм жа ўжо вырашылі перадаць!

І яшчэ. Усё ж ніяк не магу ўцяміць — чаму перадалі менавіта праваслаўным, калі у горадзе ёсьць вуніяты, якія дагэтуль ня маюць свайго храма і якія, дарэчы, маюць на яго поўнае Божае права. Хоць, разумею, гэта пытаньне ўжо лішняе.

**Ф. МАЛЕЦКАЯ.**

З Ватыкану

# НОВЫ КАТЭХІЗМ

У Ватыкане пры зьезьдзе вялікай колькасьці сьвятароў з усяго сьвету быў урачыста прыняты новы каталіцкі Катэхізм. Праца над ім працягвалася сем год. Неабходна было ўлічыць 25 тысяч паправак, якія датычаць розных бакоў сучаснага жыцьця.

Усе асноўныя пастулаты касьцёлу тым жа часам не былі закрануты. Па словах Папы Яна Паўла II, «у каталіцкай навуцы нічога не зьмянілася». Патрэба ў новым Катэхізме аднак тлумачыцца тым, што папярэдні — першы быў зацьверджаны ў 1566 годзе.

За гэтыя 400 зь лішкам год каталіцтва шырока распаўсюдзілася. Сімвалічным на ўрачыстасьці сталася ўручэньне Папам паасобнікаў новага Катэхізму чатыром біскупам з чатырох частак сьвету, а таксама пары маладых і двум дзецям, хлопчыку й дзяўчынцы.

**А. С.**

Розгалас

# Быць альбо ня быць...

Гарадзенская шматтыражка для будаўнікоў пад назвай «Высота» вырашыла ўнесьці сваю «лепту» у дыскусію аб дзяржаўнай мове. Са сваім артыкулам у № 48 выступае на старонках «Высоты» адзін з кіруючых будаўнікоў вобласьці таварыш В. Сурнін. Ну ніяк ня можа ён зьмірыцца з тым, што на Беларусі сваё дастойнае месца зойме не расейская, а беларуская мова.

Прачытаеш яго артыкул і разумееш, што нямашака ў ім аніякіх аргумэнтаў. Сёньня ніхто не спакушаецца на свабоду В. Сурніна, на яго правы. Ніхто не прымушае выпускніка Сібірскага мэталургічнага інстытута, які прыехаў на Беларусь у 1968 годзе з чырвоным дыплёмам інжынера-будаўніка, размаўляць на беларускай мове. Ніхто не пераводзіць сёньня і будаўнічую дакумэнтацыю на дзяржаўную мову. Пакуль адно ідзе (шчыра кажучы, вельмі марудна) падрыхтоўчая работа, прадугледжаная Законам аб мовах. Адкуль жа гэтыя непрыемныя эмоцыі аўтара артыкула, раздражнёны тон, нейкія «празрыстыя» намёкі? Відавочна, вытокі такой пазіцыі ў вялікадзяржаўніцкай псіхалёгіі, якая моцна ўкаранілася на генным ўзроўні... Чым бравіруе аўтар? Тым, што за 24 гады, якія ён пражыў на зямлі беларусаў, так і не навучыўся мове нашага народа, абыякавы да яго мовы і культуры? Няўжо гэта рысы сапраўднага інтэлігентнага чалавека, які лічыць сябе адукаваным?

Што ні абзац у гэтым артыкуле, то «пэрлы», таму ня варта болей займаць увагу чытача. У заключэньне толькі адна рэпліка. Таварыш В. Сурнін падпісаў свой матэрыял так: «Грамадзянін Беларусі, рускі па нацыянальнасьці». Але ж як можна сябе лічыць грамадзянінам дзяржавы і ігнараваць дзяржаўную мову? Поўная адсутнасьць лёгікі і здаровага сэнсу! Спадзяюся, што аўтар артыкула як «грамадзянін Беларусі» усё ж знойдзе час азнаёміцца з Законам Рэспублікі Беларусь, які рэгулюе пытаньні грамадзянства. Гэты дакумэнт быў прыняты парлямэнтам год таму.

Дык вось, у другім разьдзеле Закона гаворыцца, што ў гамадзянства Рэспублікі Беларусь можа быць прыняты той, хто бярэ на сябе абавязкі выконваць і паважаць Канстытуцыю і Законы РБ, ведае дзяржаўную мову. Ці патрабуюцца тут яшчэ якія-небудзь камэнтары? Проста кожны павінен зрабіць для сябе выснову: быць ці ня быць грамадзянінам Беларусі. Адчуваць сябе тут чужым, часовым, ці ўсё-такі часьцінкай беларускага народа, працаваць і жыць для працьвітаньня гэтай зямлі.

**Д. МІКЛАШЭВІЧ.**

# А чаму б ня красьці?

У Скідалі абакралі прадуктовую краму, якая на рагу вуліцаў Інтэрнацыянальнай і Гагарына, што ў самым цэнтры горада. А затым скралі зброю з стралковага ціра абароннага таварыства, што на стадыёне. Як у краму, так і ў памяшканьні ціра злодзеі залезьлі праз вакно. З крамы вынесьлі тавару на 13 тысяч рублёў, у тым ліку гарэлку.

— А як жа ахоўная сігналізацыя? — цікаўлюся ў старшыні спажыўтаварыства А. М. Лук 'янава.

— Яна спрацавала, але на сігнал ніхто не адрэагаваў.

— Чаму?

— Яна аўтаномная, з пультам кіраваньня зьнешневедамаснай аховы не зьвязана, бо шмат патрэбна плаціць за паслугі. Толькі за адзін магазін у месяц да васьмі тысяч рублёў. На пульце зьнешневедамаснай аховы пакінулі толькі тры аб 'екты: два ўнівермагі і краму «Тэхніка ў быце».

— А чаму б не паставіць вартаўніка? — зноў пытаюся ў Анатоля Міхайлавіча.

— Можна, але гэта таксама ня танна. Хай лепей крадуць на некалькі тысяч, усё роўна мы не застанемся ў накладзе.

Неахоўваемым аб 'ектам застаўся і стралковы цір. Тут злодзеі разьбілі шыбу і перапілавалі мэталічныя краты.

Ці магчыма было пазьбегнуць або папярэдзіць крадзеж у краме? Так, магчыма. Побач з крамай паўсюдна месьцяцца ўласныя хаты. Папярэдзіла б кіраўніцтва спажыўтаварыства іх жыхароў: на выпадак; калі спрацуе сігналізацыя, паведаміць па тэлефоне куды належыць, тады і злодзея магчыма было б застаць на месцы злачынства або папярэдзіць крадзеж.

Якое ж выйсьце бачыць кіраўнік спажыўтаварыства А. В. Лук 'янаў, каб надалей не дапусьціць крадзежу?

— Будзем на вокны мацаваць краты.

Але ж не перашкодзілі краты злодзеям у стралковым ціры, дый не дапамогуць яны і ў крамах, хоць і ёсьць тут аўтаномная сігналізацыя.

І яшчэ высьветлілася адна дэталь. Шмат у якіх крамах застаецца на ноч грашовая выручка. Чаму? Ды таму, што ў вячэрні час перапоўнены касы дзяржбанка.

— Не стае лічыльных машын,— тлумачыць упраўляючая Скідальскага адзьдзяленьня дзяржбанка Е. С. Рыхліцкая. Але ж можна палегчыць працу касіраў, калі частку грошай здаваць яшчэ ўдзень.

Для гэтага патрэбна дамова паміж кіраўнікамі банку і спажыўтаварыствам, але гэтага няма.

Так што адначасова з таварам у злодзеяў ёсьць магчымасьць вынесьці і грошы, якія, вядома, значна лягчэйшыя за скрынкі з гарэлкай.

**І. БАРЫСАЎ.**

Погляд зь Летувы

# ПРАЗРЫСТАЯ МЯЖА

***Празрыстасьць шклянкі залежыць ад таго, зь якога боку паглядзець ды як паглядзець: прыжмурыўшыся ці абодвума вачыма. Калі глядзець з беларускага боку на летувіскі, ды яшчэ вачмі супрацоўнікаў мытных пастоў, мяжа — як тая каляровая бутэлька Бярозаўскай гуты: штосьці праз яе ўбачыш, але далёка ня ўсё. З супрацьлеглага, летувіскага боку інакш, нібы ўзіраешся ў шыбы перад Вялікднём у хаце добрай гаспадыні...***

МЯРКУЙЦЕ самі. Возьмем да прыкладу Салечніцкі раён. Зь Беларусі сюды вядзе адзінаццаць жвіравых дарог. На чатырох стаяць беларускія пасты. Але ж застаюцца яшчэ сем. Машыны па іх хоць калонамі ганяй. Існуюць, праўда, яшчэ рухомыя пасты. А значыцца, у адным месцы яны ёсьць, а ў іншых іх няма. Эфэктыўнасьць іхняя пад пытаньнем. Як вядома, моцныя супэрмазы з грузам заўсёды суправаджаюць легкавікі з рацыямі і ўзброеным экіпажам. Міліцыі зь імі спаборнічаць цяжка й небясьпечна.

Для меншых самаходаў існуюць больш за паўсотні лясных дарог. Мясцовыя жыхары з гэтага маюць заробак. Пераезд цераз мяжу каштуе ад дзесяці даляраў і вышэй. Някепскі заробак. Праўда адна бабуля скардзілася: «Хутчэй бы мяжу зрабілі. Цэлую ноч спаць не даюць, усё пытаюць, як праехаць на Салечнікі».

А часам усё робіцца прасьцей. Малалікія мытныя пасты звычайна працуюць на адну або некалькі летувіскіх фірмаў. Ёсьць пэўная такса: за тону каляровых мэталаў — да ста даляраў, за іншы груз крыху менш.

Далей. Тое, што нельга вывозіць зь Беларусі ў Летуву, часта дазволена вывозіць у Калінінградзкую вобласьць. Зразумела, праз Летуву. Неабходныя дакумэнты едуць у Калінінград і назад, а тавар застаецца ў Летуве. Падобным жа чынам «возяць» грузы з Калінінграда на Беларусь.

Апошнім часам і гэты шлях удасканаліўся. Летувіскія дзялкі знаходзяць сабе хаўрусьнікаў на беларускіх прадпрыемствах і ў калгасах, якія існуюць недалёка мяжы. Чым бліжэй да яе, тым даражэй аплочваюцца паслугі. Увесь груз адрасуецца такому калгасу, установе або прадпрыемству, на дакумэнтах — яе пячаткі і штампы. А потым ўсё сплывае за беларускую мяжу. Балюча на гэта глядзець, крыўдна за сваю беларускую дзяржаву, якая ці грошай ня мае, ці жаданьня, каб умацаваць сваю мяжу, як тое зрабілі летувісы. Ад іх столькі грузаў не ўплывае.

**Алесь СТАРАЖЭЎСКІ.**

У варунках сьвятла

# Ласкаю Божаю Маэстра

**Наша зямля гарадзенская нарадзіла шмат цікавых людзей. Імёны ейных навукоўцаў, мастакоў, артыстаў, ваяроў, пісьменьнікаў і паэтаў нікому не дадуць права казаць пра яе духоўную бядноту. Адны зь іх сталіся знакамітымі пад час свайго жыцьця, іншых толькі памяць людзкая ды пашана тых, хто жыў побач, бачыў і чуў тварэньні іх рук і розуму, пазбаўляе забыцьця.**

Мой аповяд пра чалавека, якога ведаюць у Амэрыцы і Канадзе, зь яго творчасьцю і жыцьцём добра вядомыя ў Англіі і Нямеччыне, але мы, тутэйшыя, хіба што выпадкова чулі ягонае прозьвішча, ці лёс падараваў адзінкам магчымасьць жыць і працаваць разам зь ім.

Антон Міхайлавіч Валынчык.

Радзімаю кампазытара стала вёска Мільканавічы. 23 ліпеня 1896 года на слонімскай зямлі нарадзіўся чалавек, якому наканавана было зьведаць і ні з чым не параўнальныя сьветлыя імгненьні творчага прасьвятленьня і разам з тым цяжкія і пакутлівыя часы непавагі, прыніжэньня, няўдзячнасьці і глуму. Мусіць, невыпадковым было тое, што бацька аддаў маленькага Антона, якому толькі споўнілася шэсьць гадоў, вучыцца ў Жыровіцкі манастыр. Судакрананьне з гэтай духоўнай крыніцаю й нарадзіла ў хлопчыка вялікую цягу да царкоўнай музыкі і да музыкі наогул. Пашчасьціла і ў далейшым, бо юнаком Антон браў урокі ў вядомых ня толькі ў той час харавога дырыжора прафэсара Банькоўскага ў Горадні, славутага харавіка Ягорава, кампазытара Туранкова. Першыя самастойныя спробы працаваць зь людзьмі ў лунінецкім рэальным вучылішчы, дзе прыйшлося выкладаць сьпевы.

Музыка, музыка, музыка. Прага ўдасканаленьня прыводзіць у 1932 годзе Антона Валынчыка ў Крамянецкі музычны ліцэй, які прыроўніваўся да кансэрваторыі. Няспынная праца над сабой. Пасьля заканчэньня ліцэя едзе выкладаць у легэндарную Навагрудзкую гімназію. Навагрудчына натхняла не аднаго творцу, і ў гэтых цудоўных мясьцінах да будучага кампазытара прыходзяць незабыўныя хвіліны нараджэньня Музыкі, якая зь дзіцячых гадоў гучала ў ягонай душы і нарэшце знайшла выйсьце, вылілася ў сьвет. Каля дзесяці гадоў давялося працаваць у Навагрудку. Беларускі фальклор зрабіўся крыніцаю прыкладаньня творчых высілкаў. У гэты час былі напісаныя музычныя кампазыцыя да беларускай народнай казкі «Чорт і баба», песьня «Неба не чуе жальбы іржаных каласоў» і іншыя творы, большасьць зь якіх, на жаль, адвезена за мяжу альбо згубілася пад час нямецкае акупацыі. Клясыкі беларускай літаратуры Купала і Колас таксама ўзрушылі кампазытара сваёй унутранай моцаю, і неўзабаве зьявіліся песьні «Касцы» на словы Янкі Купалы і «Ліпы старыя» на словы Якуба Коласа. І канечне ж, таямніца Антона Міхайлавіча, яго самая дарагая каштоўнасьць і самая надалей вялікая пакута — царкоўная музыка, музыка Боскага позыву, музыка вышэйшых сфэраў...

У 1947 годзе ў Ашмянах фармуецца ансамбль Славянскай песьні і танца. Усю працу па яго стварэньню бярэ на сябе Антон Міхайлавіч і робіцца яго першым хармайстрам. Не было дзе жыць, працаваць даводзілася забыўшыся на сон і ежу. Нечакана падкралася хвароба. Дыягназ дактароў: запаленьне лёгкіх, пагроза паралічу. Працавіты, не патрабуючы для сябе шмат, такі хармайстар быў патрэбным, але калі яму самому спатрэбілася дапамога, лекі, грошы, на яго раптам забыліся ўсе «власть имущие»...

Менск прыняў Валынчыка не зусім гасьцёўна. Пра дзівацтвы кампазытара (яго царкоўную музыку) ўжо добра ведалі тыя, хто кіраваў у той час нашай культурай, таму надзея ўладкавацца на сьвецкую пасаду была страчана ў першыя ж дні. Таму былы хармайстар пайшоў працаваць рэгентам у архірэйскі царкоўны хор пры экзарху Беларусі Пяцірыму. Антон Міхайлавіч заўжды ўзгадваў гэты час з асалодаю і ціхім смуткам, бо тады сустрэліся разам яго жаданьні і магчымасьці. Да таго ж, Пяцірым хутка прапанаваў працу ў Жыровіцах, дзе прайшлі тры, можа самых творчых, гады. У гэтых сьвятых сьценах напісана было шмат царкоўнай музыкі, пакладзены на ноты «Трапар» для выкананьня царкоўным хорам, напісаныя партыі для «Разбойніка», які і зараз выконваецца хорам, і трыо перад Пасхай. Праца ў сэмінарыі вырашыла далейшы лёс кампазытара. Ён стаў ізгоем, чалавекам другога гатунку. Пасьля сэмінарыі жыцьцё ў Горках, што на Магілёўшчыне, ператварылася ў нешта невыноснае. Мясцовыя партакраты, гаспадары жыцьця, лічылі справаю гонару пакпіць і пазьдзекавацца з чалавека, які (на жаль і дзякуй Богу) быў нашмат вышэйшы за іх. Чалавечае цярпеньне мае межы, і ў адчаі Антон Міхайлавіч пакідае жонку з сынам і ідзе ў сьвет. Са студзеня да пачатку сакавіка ніхто ня ведаў, дзе знаходзіцца гэты чалавек. Адзінота загаіла крыўду і горыч...

(Працяг на 6 стар.)

IV.

На польскім фронце С. Булак-Балаховіч атрымаў удзел у раёне Пінску, там жа ён наладзіў сувязі з эсэраўскімі партызанскімі атрадамі, арганізаванымі Беларускім Нацыянальным Камітэтам. У БНК уваходзілі правыя эсэры, знаёмыя Балаховічу яшчэ па даваеннай рабоце. Таксама наладжваліся кантакты зь лідэрам расейскіх эсэраў Б. Савінкавым, які ўзначальваў у Польшчы г. зв. «Русский Политический Комитет», куды ўваходзілі сацыялісты розных напрамкаў з Расеі, Украіны і Беларусі. Савінкаў толькі вёў перамовы з палякамі пра арганізацыю ўзброеных сілаў — таму прыезд Балаховіча паскорыў справу, а «са-

вінкаў і інш., паведаміла гэнэральны штаб палякаў, што атрады Балаховіча могуць быць выкарыстаныя ў якасьці дывэрсійных і партызанцкіх групаў у палескіх пушчах і могуць доўга дзейнічаць супраць савецкіх войскаў пасьля канца вайны. Інакш кажучы, палякі ня мелі ніякіх плянаў у адносінах БНР, а беларускія батальёны пакідалі на бойню...

Тым часам, на савецкім фронце замаўчалі гарматы. Палякі пакідалі бальшавікам Менск і Слуцак, а таксама мелі разззброіць адзьдзелы Балаховіча і Пятлюры! Перад гэнэралам Балаховічам паўстала дылема: альбо скласьці зброю, альбо працягваць партызанскую вайну, маючы на

віча заставалася 1,5 тыс. пяхоты ды 0,3 тыс. кавалерыі пры 16 гарматах — поўны полк часоў Першай сусьветнай вайны.

Асноўныя сілы арміі Балаховіча прарываліся ў двух напрамках — уздоўж Прыпяці на захад, і на поўнач на Случчыну. Група, што йшла на правым ўздоўж Прыпяці, перайшла на польскі бок 28 лістапада — каля 3,5 тыс. вайкоў з конямі і артылерыяй. Яшчэ да 6,5 тыс. чалавек працягвалі партызанку на савецкім баку фронту. Сам гэнэрал С. Булак-Балаховіч быў паранены і перайшоў мяжу сярод апошніх — 30 лістапада на чале заслону з аднае роты.

VI.



# ГЭНЭРАЛ БУЛАК-БАЛАХОВІЧ

(Заканчэньне.
Пачатак у № 13).

вінкаўцы» былі адгэтуль фактычна рэзэрвам корпусу Балаховіча.

Беларускі корпус удзельнічаў у баёх супраць Палескай групы Чырвонай Арміі, а потым у баёх на Украіне і пад Люблінам. 15 жніўня Пілсудзкі перайшоў у контрнаступленьне і разьбіў фронт М. Тухачэўскага паміж Віслай і Бугам. Праз некалькі тыдняў польская армія выйшла зноў да лініі Ліда—Баранавічы—Пінск. Група Балаховіча, якая панесла цяжкія страты, была выведзена ў рэзэрв, дзе інтэнсыўна папаўнялася «чырвонымі» дэзэртырамі, далучыўшыміся партызанамі й эсэрамі-добраахвотнікамі. Фронт тым часам дакаціўся да Менску — палякі практычна аднавілі страты, панесеныя ў выніку наступленьня Тухачэўскага-Ягорава. У. Ленін прапанаваў Ю. Пілсудзкаму правесьці мяжу па Бярэзіне дняпроўскай — баі спыніліся, у Рызе пачаліся размовы Польшчы, Расеі ды Украіны. Беларусаў там не было як роўных...

У верасьні 1920 году група С. Булак-Балаховіча прарвала савецкі фронт на Палесьсі ды заняла Пінск. Войскі савецкай 4-й Арміі адступалі. Пачалася кароткая савецка-беларуская вайна.

V.

Армейская група гэнэрала С. Булак-Балаховіча на пачатку наступленьня налічвала каля 20 тыс. шабляў і штыхоў — ударную сілу групы складалі 1-я дывізія «эстонцаў», а таксама перафармаваныя партызанцкія атрады беларускіх эсэраў. З «партызанаў» былі сфармаваныя Менскі, Смаленскі, Полацкі, Віцебскі, Сялянскі ды Хабараўскі палкі; апошні — ад назвы сяла Хабенічы, цяпер с. Палескае на Жытоміршчыне.

У канцы верасьня пры арміі Балаховіча ўзьнік Беларускі Палітычны Камітэт на чале з П. Алексюком, Я. Адамовічам ды Я. Сянкевічам. 12 кастрычніка былі прынятыя супольныя рашэньні, паводле якіх цэнтралізаваная грамадзкая ўлада на занятай войскамі Балаховіча тэрыторыі належала да БПК. Адначасова камісія польскага міністэрства, куды ўваходзілі К. Вэндзэгольскі, Б. Са-

тылах палякаў, якія з саюзьнікаў ператварыліся ў самым найлепшым выпадку ў нэйтралаў.

7-га лістапада 1920 году 1-я дывізія пачала наступленьне, на другі дзень прарвала фронт «чырвоных» і заняла Петрыкаў. 10 лістапада быў узяты Мазыр, куды пераехаў БПК — тут жа літаральна за два дні быў сфармаваны Мазырскі полк. Далей беларуская армія працягвала наступаць на Аўруч і Чарнобыль, а левым крылом на Рэчыцу, каторую жаўнеры Балаховіча занялі раніцай 17 лістапада.

І тут пачаўся контрудар «чырвоных» — ачухаяныя ад вайны, яны маглі лёгка манэўраваць войскамі. За дзесяць дзён наступленьня «балахоўцаў» камандаваньне Чырвонай Арміі прыняло адпаведныя захады, каб не дапусьціць разгрому 4-й арміі на Палесьсі. З раёну Менску на поўдзень перакідваліся палкі 16-й арміі, укамплектаваныя тулякамі і арлоўцамі. У той жа дзень 17 лістапада перадавы батальёны былі ўжо ў Калінкавічах — «балахоўцаў» імкнуліся адрэзаць ад польскага фронту. «Балахоўцы» пакінулі Рэчыцу, праз два дні быў здадзены Мазыр, нарэшце, 22-га лістапада беларускія палкі прарвалі савецкі фронт 16-й арміі ды перайшлі на бок палякаў. Цяжкія страты панесьлі «балахоўцы», але таксама была цалкам зьнішчаная 33-я Кубанская казачая дывізія расейцаў.

Заняўшы Мазыр, гэнэрал С. Булак-Балаховіч абвясьціў сябе «начальнікам Беларускай Дзяржавы» і склаў зь сябе камандаваньне «русской добровольческой армией», якая наступала ў другім эшалоне. Камандаваньне ён перадаў свайму брату, палкоўніку Язэпу Балаховічу. У канцы лістапада 1920 году адыходзячая на дэмаркацыйную лінію польская армія, канкрэтна, 18-я дывізія выціснула «балахоўцаў-савінкаўцаў» на тэрыторыю Польшчы ў раёне Турава й Альшанаў. Палякі патрабавалі нават здаць зброю — аднак, гэта адбылося толькі пасьля жорсткіх баёў пад Якімовічамі. На момант разбраеньня пад камандай параненага Я. Балахо-

Цесна да «палескай вайны» прымыкае Слуцкае паўстаньне. 14—15 лістапада 1920 году ў Слуцку адбыўся зьезд 107 дэпутатаў, які падцьвердзіў існаваньне БНР у этнаграфічных межах. Абраная Рада Случчыны пераняла па адступаючых палякаў цывільную ўладу і ўтварыла з партызанаў і добраахвотнікаў 1-ю Слуцкую брыгаду — два поўныя палкі плюс два эскадроны кавалерыі ды артылерыйскі дывізіён: разам каля 3 тыс. чалавек. Столькі ж лічылі асобныя заслоны, дывэрсійныя ды партызанскія атрады, якія пачаткова трымалі фронт супраць Чырвонай Арміі. Базамі паўстанцаў былі мястэчкі Семежава і Грозава.

Баі з савецкімі войскамі пачаліся 27 лістапада — на працягу першых дзесяці дзён сялянскія палкі пацясьнілі ворага на Ўсход. 7 сьнежня рэгулярныя савецкія войскі выбілі паўстанцаў зь Семежава, але ўжо 15—16 сьнежня Слуцкая брыгада зноў адабрала мястэчка. Самыя цяжкія баі йшлі 18—22 сьнежня — абодва бакі несьлі цяжкія страты, але нарэшце перавага схілілася на бок Чырвонай Арміі. Апошнія слуцкія роты перайшлі раку Лань на польскі бок 28 сьнежня. Тут яны былі разброеныя ды інтэрнаваныя. Партызанцкая вайна на Случчыне й Палесьсі працягвалася да 1925 году — ОГПУ ацэньвала сілы партызанаў на 7—8 тыс. чалавек. Апошні атрад слуцкіх паўстанцаў змагаўся пад Рудзенск каля Менску да 1929 году...

VII.

Балаховіч і яго «палескі паход» намаганьнямі савецкіх гісторыкаў былі зьвязаныя дагэтуль выключна з габрэйскімі пагромамі. Што ж — навербаваныя на скорую руку 3 палонных ці дэзэртыраў жаўнеры маглі паграміць каго хочаш. Такое было ў кожнай арміі. У «чырвоных» былі атрады ЧОН і кітайскія батальёны, у палякаў «шводроны хусажув сьмерці», у летувісаў «жалезныя ваўкі» і г. д. Але дзіўна, што ў «палескім паходзе» Балаховіча ўдзельнічаў, напрыклад, габрэйскі эскадрон пад началам паручніка Б. Цэйтліна! А што да так званага «гомельскага пагрому», дык войскі

Балаховіча да Гомеля ўвогуле не дайшлі, а ў Гомелі тады стаяла... брыгада рэзэрву Чырвонай Арміі! І хто паграміў тых гомельскіх габрэяў, цяжка сказаць дагэтуль...

VIII.

Інтэрнаваныя польскімі вайсковымі ўладамі «балахоўцы» былі размешчаныя спачатку ў Бярозе-Картузкай пад Берасьцем, а потым іх перавялі ў лягеры да Пётркува ды Чанстахова.

У лягерох захоўваўся падзел на роты і батальёны пад началам афіцэраў, для параненых былі разгорнутыя шпіталі. Інтэрнаваныя жаўнеры вучыліся ў школах, а таксама на розных рамесьніцкіх курсах. У вольны час наладжваліся спартыўныя спаборніцтвы. Наогул, рэжым у лягерох не адрозьніваўся ад прынятага ў польскай арміі. Сам гэнэрал С. Булак-Балаховіч атрымаў канцэсію на лесасраспрацоўку ў Белавежскай Пушчы, куды неўзабаве перасяліўся са сваімі бліжэйшымі жаўнерамі і дзе пражыў бяз выезду наступных 15 гадоў...

11 Адзьдзел Гэнштабу, польская контрразьведка, ацэньвалі баявую падрыхтоўку і франтавы вопыт «балахоўцаў» як добрыя. Горш было з ацэнкай дысцыпліны, адзначаліся антыпольскія настроі жаўнераў і афіцэраў. Пасьля 1921 году польская армія не выкарыстоўвала «балахоўцаў». Багатая савецкая літаратура пра «подрывные действия» жаўнераў Балаховіча альбо «шпионскую деятельность» не адпавядае праўдзе — на «балахоўцаў» сьпісвалі сялянскую партызанку часоў калектывізацыі, а для разьведкі палякам не бракавала ўласнае агентуры.

Першыя зьвесткі пра сьмерць С. Булак-Балаховіча зьявіліся ўжо ў 1925 годзе — але тады загінуў яго брат Язэп. Наступны чуткі датаваныя 1930-м годам. Нарэшце, па адной вэрсыі Балаховіч загінуў у 1939 годзе пры абароне Варшавы, а па другой — быў застрэлены невядомым у той жа Варшаве ў 1942-м... Больш-менш вядома толькі, што С. Булак-Балаховіч ваяваў у Гішпаніі на баку генэрала Франко і вясной 1939 году быў жывы. Дзе ж і калі ён сапраўды загінуў, дзе магіла беларускага гэнэрала і ці ёсьць яна ўвогуле — невядома.

IX.

Сягоньня пра Булак-Балаховіча гавораць і пішуць рознае. Адзін артыкул з палемічным запалам нават быў названы «Бандыт ці Нацыянальны герой?». Цікава, што да адмоўнай характарыстыкі гэнэрала прыклалі руку... дзеячы БНР! Той жа К. Езавітаў, той жа А. Луцкевіч..

Мужыцкія манеры гэнэрала не адпавядалі вытанчанасьці апошняй беларускай шляхты. Тым болей, што не маглі цярпець Балаховіча бальшавікі, чыёй крыві ён добра-такі намарнаваў.

То кім жа ён быў? Быў ён сынам свайго часу — часу неверагодных падзеяў і неверагодных лёсаў. А мы цяпер слаба й цьмяна ўяўляем сабе псыхалёгію тагачасных дзеячоў дый увогуле тагачаснага народу. Таму ад катэгарычных ацэнаў варта ўстрымацца.

Вось прачытана тое, што засталося ад беларускага гэнэрала Станіслава Нікадзімавіча Булак-Балаховіча. А высновы з гэтага няхай кожны робіць сам і на свой розум.

**Алесь ЧОБАТ,**
**Чэрвень-жнівень, 1992.**
**Горадня.**

## УПЕРШЫНЮ У СААРБРУКЭНЕ

Гэрманская газэта «Саарбрукэр Цайтунг» апублікавала матэрыял «Лірычныя тэксты зь Беларусі». У іх расказваецца пра менскага паэта Алеся Разанава, які пабываў нядаўна ў Нямеччыне. На запрашэньню інстытута славістыкі унівэрсітэта ў Саарбрукэне госьць прыняў удзел у літаратурным вечары. Ён упершыню такім чынам прадставіў тут новую беларускую паэзію. Чаму упершыню? Газэта піша, што раней бюракратыя Цэнтру ня мела цікавасьці да самабытнай мовы і культуры беларусаў, аднаго з усходнеславянскіх народаў. Цяпер жа з 'явіліся новыя магчымасьці для знаёмства ў Эўрапэйскіх краінах зь беларускай культурай і літаратурай.

Аўтар нататкі ў газэце «Саарбрукэр Цайтунг» дзеліцца ўражаньнямі ад паэм Алеся Разанава, якія прагучалі на вечары. Ён піша, што яны маюць глыбокія карані ў беларускай традыцыі, яны нацыянальныя. Адзначае выразнасьць і меладычнасьць беларускай мовы.

**М. В.**

## ДЗЯРЖКАМІТЭТ ЗАГАДАЎ

У звароце да чытача рэдакцыя шматтыражнай газэты «Сморгонский станкостроитель» (гэта выданьне калектыву завода аптычнага станкабудаваньня) аб 'явіла, што ў 1993 годзе пачне «планамерна і пасьлядоўна» перавод на дзяржаўную беларускую мову,— у адпаведнасьці з Законам аб мовах і загадам Дзяржаўнага камітэта па прамысловасьці.

Што ж, гэта трэба толькі вітаць. Будзем спадзявацца, што гэты «планамерны і пасьлядоўны» працэс не зацягнецца на гады.

**В. М.**

## ЯШЧЭ АДЗІН «БЕЛАРУСКІ» АЎТОБУС!

На адным з прадпрыемстваў Беларусі (мяркуецца, што ў Лідзе) плянуецца наладзіць вытворчасьць кузаvоў да аўтобусаў «Ікарус». Ужо цяпер вядуцца перамовы зь вядомай венгэрскай фірмай, якая абяцае сваю дапамогу. У пэрспектыве ў нас будзе створаны і завод па зборцы «Ікарусаў». Пакуль жа многія з гарадзкіх аўтобусаў даўно адхадзілі сваё і не падлягаюць рамонту. Для набыцьця новых машын, ведама, няма валюты.

**М. Д.**

ПОШТА

# Траншэі ў старым горадзе

*Зь цікавасьцю прачытаў на старонках «Пагоні» матэрыял Алены Храмковай, мастацтвазнаўцы, пра архітэктуру Горадні. Артыкул «Восень у стылі мадэрн» сапраўды атрымаўся як невялікае падарожжа па старых вуліцах і завулках нашага горада. Горада, дзе кожны будынак у гістарычнай частцы мае сваю непаўторнасьць, адметнасьць. Спадзяюся, што такія публікацыі на старонках газэты будуць працягваць зьяўляцца.*

*Сёньня існуюць прапановы аб 'явіць цэнтр горада гісторыка-археалагічным запаведнікам. Але пакуль ідуць спрэчкі, унікальныя будынкі разбураюцца, церпяць ад непрафэсійнай рэстаўрацыі.*

*Узгадваю фільм, які прайшоў па цэнтральным тэлебачаньні гадоў 8—10 таму. Быў ён зьняты ленінградзкай кінагрупай у Горадні і называўся «Горадня, верасень». Аўтары здолелі з такой рамантычнасьцю, захапленьнем зьняць на плёнку дворыкі, дамы, вулічкі нашага горада. Восеньскага горада, асьветленага спакойным сонейкам, зь дзівоснай прыгажосьцю архітэктурных дэталяў, балконных агароджаў, ляпніны. Фільм прымусіў інакш паглядзець на звыклае, убачыць усё як цэлае.*



*І вось таму сёньня, калі крочыш па вулічках Горадні, бачыш будынкі, якія рамантуюцца гадамі, а пасьля сканчэньня работ губляюць сваю адметнасьць. І балконныя агароджы ўжо не такія як былі, а спрошчаныя, прымітызаваныя. Гэта ж датычыцца і іншых дэталяў. Крыўдна ўсё гэта назіраць. Мяркую, разумным было б сёньня беларусам не толькі стварыць свае фільмы аб архітэктуры Горадні і іншых старажытных гарадоў Беларусі, таксама сфатаграфаваць, зрабіць падрабязнае апісаньне пабудоў, іх афармленьня,— на будучыню. А калі зьявяцца сілы і сродкі для сапраўднай рэстаўрацыі, выкарыстаць гэты своеасаблівы банк дадзеных.*

*А пакуль мы многае губляем... Вось памятаю, заўсёды зьвяртаў увагу на звычайныя дзьверы старога каменнага будынка па вуліцы 17 верасьня. Простыя драўляныя дзьверы, упрыгожаныя разьбой, з адмысловай ручкай. І што ж. Неўзабаве гэтую самую дзьвярную ручку нехта прыбраў да рук, а на яе месцы зьявілася звычайная жалязяка. Ці вось зараз па вуліцы Замкавай рамантуюць дом. Вядомая справа, што ўсё перакапалі траншэямі, балконныя агароджы пашкоджаны. І застаецца толькі спадзявацца, што пасьля рамонту гэты дом можна будзе пазнаць...*

**М. МІХАЙЛОВІЧ.**

## У рамках СНД

### ПАГАВАРЫЛІ ПРА ПІТНУЮ ВАДУ

Іёны цяжкіх мэталаў, нафтапрадукты, пестыцыды, таксічныя і хімічныя злучэньні, фэнолы, радыёнукліды і многае іншае трапляе ў нашыя рэкі, азёры, прасочваецца ў падземныя воды. Гэта вельмі небясьпечна,— падкрэсьлівалі ўдзельнікі міжрэспубліканскага сэмінару, які праходзіў у Горадні. На сэмінары выступілі аўтарытэтныя спэцыялісты зь дзяржаў СНД.

Прафэсар С. Ліневіч прывёў дадзеныя па Расеі. Кожная восьмая проба вадаправоднай вады там не адпавядае гігіенічным патрабаваньням. У шэрагу выпадкаў (Удмурція, Тува, Наўгародзкая і Растоўская вобласьці) засьведчаны непасрэдны ўплыў хімічнага і бактэрыялагічнага складу вадаправоднай вады на рост захворваньняў цэнтральнай нярвовай сістэмы, гепатытамі, нэфрытамі, анкалагічнымі захворваньнямі, таксікозаў цяжарнасьці. У вадаправоднай вадзе знаходзяць і небясьпечныя вірусы.

Зразумела, што ў Беларусі сітуацыя выглядае ня так змрочна. Толькі чатыры гарады — Менск, Гомель, Горадня, Наваполацк, акрамя падземных крыніц, карыстаюцца пітной вадою з рэк і азёр. І тым ня менш час дарагі, трэба дзейнічаць, будаваць новыя ачышчальныя збудаваньні, рыхтаваць кваліфікаваныя кадры. Празь пяць-дзесяць гадоў сітуацыя зь пітной вадой на Беларусі можа рэзка пагоршыцца,— папярэджваюць спэцыялісты.

**М. Д.**

# Спартоўскі гарт

### ЛІДЭР УЗМАЦНЯЕ ПАЗІЦЫІ

Калі пасьля першага тура кубка Балтыйскай лігі па гандболу беларускія клюбы СКА-1, СКА-2 з Менска узначалілі турнір, ня верылася, што так будзе і ў наступных гульнях, вельмі ўжо моцнымі былі клюбы з Эстоніі, Латвіі, Летувы — фактычна зборні гэтых дзяржаў.

Другі тур у Менску істотных зьмен не прынёс, як і ў стартавых гульнях, менскія армейцы аднаго за другім перамаглі ўсіх сваіх сапэрнікаў і без страт узначалілі спаборніцтвы, маючы ў дзесяці гульнях дзесяць перамог. Не псуе малюнак і больш малады СКА-2, дзе выступаюць 18-гадовыя юнакі, ён з васьмю ачкамі дзеліць трэцюю прыступку з гандбалістамі АХТКА Рыга.

У бамбардзіраў лідэрства аспрэчваюць два спартоўцы СКА-1: Андрэй Сіняк (58 закінутых мячоў) і Генадзь Халепа (57 мячоў).

Турнір Балтыйскай гандбольнай лігі прайшоў экватар, і ўжо можна падвесьці некаторыя вынікі. Спаборніцтвы, ў якіх удзельнічаюць клюбы Беларусі, праходзяць на высокім узроўні. У шэрагу гульняў барацьба вядзецца да апошніх сэкунд, што вызначае вялікую адказнасьць спарцмэнаў за вынік. Узрушвае трэнэрскі талент Спартака Міpaновіча. Менавіта дзякуючы яго аўтарытэту фэдэрацыя гандбола Беларусі адна з самых першых уступіла ў Эўрапэйскі Саюз гандбольных ліг. Дзякуючы такім своечасовым захадам нашы мацнейшыя клюбы набылі магчымасьць узвышаць сваё майстэрства ў паядынках з традыцыйна складанымі для сябе гандбалістамі трох балтыйскіх дзяржаў.

Два туры Балтыйскай лігі, якія прайшлі ў Таліне і Менску, выявілі пэрспэктыўнасьць самога туру. Сюды настойліва пачалі прасіцца гандбалісты зь Фінляндыі, польскія функцыянеры робяць прававыя захады, каб з наступнага сэзону і іх клюбы выступалі ў Балтыйскай лізе. Выключную зацікаўленасьць выяўляюць фэдэрацыі гандболу Швэцыі, Нарвэгіі, Даніі, а ў Нямеччыне і ўвогуле разважаюць аб пэрспэктыве гандбольнай лігі Балтыйскіх дзяржаў.

Цікаўнасьць да спаборніцтваў чатырох маладых краін з боку суседзяў, па агульнай думцы трэнэраў, спэцыялістаў, вызначылася высокім рэйтынгам Менскага СКА і трэнерскім аўтарытэтам спадара Міpaновіча (існуе прымаўка, дзе Мірановіч, там заўжды цікава). Відаць, з гэтай нагоды падапечных С. Мірановіча запрасілі на адкрыты турнір кубка Нямеччыны, які адбудзецца напрыканцы сьнежня 1992 года.

### ПАСЬЛЯ ЗЬМЕНЫ ТРЭНЕРА

Зьмяніўшы галоўнага трэнера пасьля правальна прайгранага першага этапу кубка МХЛ, менскі прафэсійны клюб «Дынама» правёў шэраг гульняў у Заходняй канфэдэрацыі. Вялікіх здабыткаў беларускія хакэісты не прыдбалі — перамогі перамяжоўваюцца з паражэньнямі. Але нават па некалькіх гульнях можна адзначыць узрослае жаданьне нашых гульцоў, імкненьне ня проста адбываць нумар на пляцоўцы, а плённа працаваць.

Тое, што менскі клюб ажыў і ў яго зноўку пачаў зьяўляцца ўпарты характар — відавочна, як відавочныя і захады новага трэнэра А. Сідарэнкі, які ня стаў «рэзаць па-жывому», а проста пачалавечы знайшоў агульную мову з калектывам.

Паралельна кубку МХЛ праходзіць адкрыты чэмпіянат Расеі, дзе пасьпяхова змагаюцца яшчэ два беларускія клюбы — «Нёман» з Горадні і «Хімік» з Наваполацку. Нашыя каманды займаюць адпаведна першае і другое месцы ў гэтым турніры сярод каманд Заходняй зоны. Так што ў беларускіх хлопцаў ёсьць усе шанцы стаць калі не чэмпіёнамі, то прызёрамі расейскага чэмпіянату.

### ЧАРНАМОРСКА-БАЛТЫЙСКАЯ ЛІГА НАБІРАЕ ХОД

*Пакуль палітыка і парлямэнтары падлічваюць і абмяркоўваюць выгоды ад эканамічнага супрацоўніцтва краін чарнаморска-балтыйскага рэгіёну, спартоўцы ня сталі чакаць і самі стварылі сваю прафэсыйную лігу воднага пола. Па ўмовах спаборніцтваў краіна-удзельніца можа выставіць на гэты турнір дзьве каманды: зборнік і фармклюб. Менавіта так і зрабіла беларуская фэдэрацыя водных відаў спорту, заявіўшы зборнік рэспублікі і клюб РШВСМ Менск. Спаборніцтвы пройдуць у некалькі этапаў, пасьля чаго вызначыцца група фіналістаў, якія разыграюць званьні пераможцаў і прызёраў Чарнаморска-балтыйскай лігі. На дзіва, беларускія ватэрпалісты, якія не лічыліся фаварытамі лігі, задаюць ход у спаборніцтвах, а зборня Беларусі пасьля стартавых тураў хоць і прайграла зборні Украіны з лікам 9:11, але ж захоўвае лідэрства.*

### ПЕРАМОГА Ў ГЭРМАНІІ

Нядаўна беларускія спартоўцы Сьвятлана Багінская і Віталь Шчэрба па запрашэньні прафэсыйнай лігі гімнастыкі Нямеччыны ўзялі ўдзел у розыгрышы кубка для прафэсіяналаў гэтай краіны. І Сьвятлана, і Віталь выйшлі пераможцамі ў сваіх разрадах.

Прыемна адзначыць, што пасьля гэтай перамогі гімнасты вырашылі заставіць статус прафэсіяналаў й выступаць за зборную Беларусі.

**Г. НЕМАН.**

## АБВЕСТКІ

**26 сьнежня у 19.00 у памяшканьні Ляпечнага тэатра адбудзецца вечар бардаўскай песьні «КАЛЯДНЫЯ СУСТРЭЧЫ». Прымаюць удзел лепшыя барды Беларусі, удзельнікі фэстываля «Басовішча». Шчыра запрашаем!**

**Самадзейны ансамбль беларускіх татараў «КУБЯЛЕГУМ» шукае акардыяніста і скрыпача для гастрольнай паездкі ў Аўстрыю на фэстываль народнай песьні летам 1993 года. Зьвяртацца па тэлефоне 2-33-87.**



Фота А. УЛАДАСЕВІЧА.

**ПАГОНЯ**

Рэдактар Сяргей АСТРАЎЦОЎ.

Адрас рэдакцыі: 230023, г. Горадня, вул. Дамініканская, 1.
Тэлефоны: 45-29-96, 45-41-83.

Выходзіць штодватыдні па пятніцах.

Заснавальнік КАФ «БАЦЬКАЎШЧЫНА»

Наша газэта ёсьць БЕЛАРУСКАЙ ТРЫБУНАЙ, адкрытай для выказваньня розных пунктаў гледжаньня, розных аўтараў зь любых краін, гарадоў і вёсак. Меркаваньні аўтараў публікацый не абавязкова могуць супадаць зь меркаваньнем рэдакцыі.

Індэкс 63124.

Фотанабор, афсэтны друк.

Гарадзенская вабласная ўзбуйненая друкарня.
230003, г. Горадня, вул. Паліграфістаў, 4.
Тыраж 3000 паасобнікаў. Замова 3174
Нумар падпісаны да друку 17. XII.1992.